СВАБОДА
8 — 15 лістапада 1994 г. №42
Кошт 50 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар Ігар ГЕРМЯНЧУК
Заснавальнік Павал ЖУК
Выдавец «Газэта СВАБОДА», Ltd.
Наклад 50 000

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220088, Менск,
вул.Іванаўская, 56
Тэл. 36-24-41

# Студэнтаў судзілі, але не пасадзілі

**7 лістапада ў судзе Ленінскага раёну адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы ў дачыненьні да студэнтаў БДУ, якія 14 кастрычніка ўдзельнічалі ў акцыі «Дзякуй прэзыдэнту за хлеб і малако».**

Перад пачаткам суда каманда падтрымкі студэнтаў распаўсюджвала ўлёткі зь іранічнымі лёзунгамі кшталту «Ура органам!» і «Сьмерць ворагам народа!»

Судзьдзя Любоў Жаўнерчык на працягу адной гадзіны разглядала справу і вынесла студэнтам А.Міхалевічу і В.Цемушаву «папярэджаньне». Трэці студэнт ня быў на судзе, бо знаходзіцца ў прыватнай паездцы ў Нямеччыне. Яго будуць судзіць пазьней.

В.В.

## Дарэчы...

1 лістапада каля трыццаці ўкраінскіх студэнтаў пікетавалі беларускую амбасаду ў Кіеве. Акцыя была наладжаная студэнцкай прафсаюзнай арганізацыяй у знак салідарнасьці зь сябрамі са свабоднага прафсаюза студэнтаў Белдзяржунівэрсытэта, якіх судзяць за арганізацыю 14 кастрычніка ў Менску маршу «Дзякуй прэзыдэнту за хлеб і малако». Украінскія студэнты перадалі супрацоўнікам амбасады зварот да беларускага ўраду з патрабаваньнем не перасьледаваць беларускіх сяброў.

Юрый АЛЯКСЕЕЎ

# Пасьля Астраўца — у Ашмяны

**У мінулыя выходныя З.Пазьняк і дэпутаты Л.Баршчэўскі, Ю.Беленькі і В.Голубеў наведалі Астравецкі раён.**

Падзяліўшыся на дзьве групы, яны аб'ехалі восем населеных пунктаў. Невялікі інцыдэнт адбыўся толькі ў вёсцы Палушы, куды прыехалі дэпутаты Ю.Беленькі і Л.Баршчэўскі. Старшыня мясцовага калгасу В.Балабановіч забараніў адмыкаць вясковы клюб, а потым пагражаў загадчыцы клюба Г.Калышы звальненьнем, калі сустрэча з дэпутатамі ўсё ж адбылася.

У наступныя выходныя апазыцыя паедзе ў Ашмянскі раён.

С.МАКС

# Сьмяротны стрэл на праспэкце Пушкіна

**У мінулую нядзелю, 6 лістапада, у Кіеве быў арыштаваны супрацоўнік менскай міліцыі Кірыл Грудніцкі, якога расшуквалі беларускія праваахоўныя органы.**

К.Грудніцкі тыдзень таму застрэліў у Менску на праспэкце Пушкіна 19-гадовую дзяўчыну. Гэтае невераґоднае здарэньне міліцэйскае начальства, зразумела, схавала ад грамадзкасьці. Учора ў прэс-службе МУС карэспандэнту СВАБОДЫ адмовіліся паведаміць якую-небудзь інфармацыю на гэты конт.

Неафіцыйным чынам мы даведаліся наступнае. Дзяўчына гуляла з сабакам на вуліцы і праігнаравала патрабаваньне міліцыянта Грудніцкага надзець на сабаку намордпік. Той дастаў пісталет і... Дзяўчына загінула на месцы.

К.Грудніцкі, як сьцьвярджаюць нашыя крыніцы, уцёк спачатку ў Гомель да свайго бацькі (ён зьяўляецца намесьнікам шэфа гомельскай абласной міліцыі), а адтуль выехаў у Кіеў, дзе і быў затрыманы.

Іван СІДАР

# На расейскай мяжы новыя парадкі

**Зь 1 лістапада нашая суседка Расея ўвяла транспартны падатак на ўезд на сваю тэрыторыю.**

Цяпер на памежным пункце кіроўца легкавога аўтамабіля павінен заплаціць 25 тыс. расейскіх рублёў, а грузавога — 45 тыс. руб.

У Дзяржаўнай падатковай інспэкцыі карэспандэнту СВАБОДЫ паведамілі, што беларускі бок таксама зьбіраецца ўвесьці падобныя транспартныя зборы, але пакуль што яны не спаганяюцца. Распрацоўваецца адпаведны законапраект, які плянуецца прыняць да канца году, каб зь 1 студзеня 1995 г. увесьці адпаведныя падаткі на нашых межах, — заяўляе падатковая інспэкцыя.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ

# Эдуард Шыркоўскі зьбіраецца абараніць беларускі бізнэс

**Былы шэф беларускага КДБ Эдуард Шыркоўскі, які знаходзіцца цяпер на пэнсіі, займаецца стварэньнем асацыяцыі абароны айчыннага бізнэсу.**

Мяркуецца, што спэктар дзейнасьці гэтай новай грамадзкай арганізацыі будзе даволі шырокі — ад непасрэднай абароны самых бізнэсмэнаў да абароны іхных эканамічных інтарэсаў. У прыватнасьці, у плянах будучай асацыяцыі — інфармацыйна-прававая дапамога беларускім дзяржаўным і прыватным прадпрыемствам, якія імкнуцца супрацоўнічаць з замежнымі фірмамі.

СІМ



# На складах усё ёсьць: варштаты, матацыклы, шкарпэткі...

**Склады беларускіх прадпрыемстваў працягваюць затаварвацца гатовай прадукцыяй, якую ніхто ня хоча купляць.**

Паводле афіцыйных зьвестак (на 1 кастрычніка), на прадпрыемствах засталося 37,4% прадукцыі ад аб'ёму, вырабленага ў верасьні. Рэшткі гатовай прадукцыі па варштатах мэталярэзных перавысілі выпуск верасьня ў 5 разоў, па трансфарматарах сілавых і камбайнах кормаўборачных — у 3 разы, электрарухавіках — у 1,4 раза, падшыпніках — у 1,7 раза. На складах таксама аселі: шкарпэткі і панчохі — 2,2 млн. пар (31,9 % агульнага аб'ёму ў верасьні), трыкатажныя вырабы — 2,2 млн. штук (32,9%), абутак — 500 тыс. пар (21,2%), матацыклы — 4,2 тыс. штук (95,7%), гадзіньнікі — 523 тыс. штук (44,4 %), пральныя машыны — 2,4 тыс. штук (30,7%), лядоўні і маразільнікі — 91 тыс. штук (14,1% ад агульнай вытворчасьці ў верасьні).

Асноўная прычына затаварваньня — высокі кошт прадукцыі пры нізкай якасьці. У час перадвыбарчай кампаніі А.Лукашэнка, як памятаеце, абяцаў разгрузіць беларускія склады. Напэўна, прэзыдэнт ведае, як гэта зрабіць, але пакуль што рукі не даходзяць.

Мікола ГРЫНЯВІЦКІ



Ф.СП-1

Міністэрства сувязі РБ
"Белсаюздрук"

**АБАНЭМЭНТ** на газэту 63887

СВАБОДА — Колькасьць камплектаў: 1

на 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозьвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | Месца | літэр | на газэту 63887

СВАБОДА

| Кошт | падпіскі | 2400 руб. | Колькасьць камплектаў: 1 |
|---|---|---|---|
| | пера-адрасоўкі | руб. кап. | |

на 1994 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозьвішча, ініцыялы)

## Крыж Эўфрасіньні амаль гатовы

**Дакладней, ягоная копія, над якой вось ужо два гады шчыруе берасьцейскі мастак Мікола Кузьміч.**

Як заўважае сам аўтар, гэта будзе ня столькі дакладная копія страчанага падчас II сусьветнай вайны крыжа сьвятой Эўфрасіньні Полацкай, колькі арыгінальны твор мастацтва, выкананы на ўзор старадаўняга шэдэўра Лазара Богшы.

К.В.

## Ушанавалі памяць краязнаўца

**У Слоніме адзначылі 65-я ўгодкі з дня заснаваньня мясцовага краязнаўчага музэя**

Ён быў створаны слонімскім краязнаўцам Язэпам Стаброўскім, які па крупінках сабраў найбагаты матар'ял пра тутэйшы край. Аднак доўгі час ягонае імя было забытае. Нават магіла Стаброўскага, што знаходзіцца побач зь вёскай Навагрудаўскага ... Наваорлавічы Слонімскага раёну, зусім занядбана і парасла хмызьняком. Ніхто сюды ніколі не прыходзіў. На сёлетнія Дзяды сюды прыехала група слонімскай інтэлігенцыі, яны і аднавілі магілы роду Стаброўскіх.

Валодзя ЯНЧУК

## Каму сьвятую вадзічку, а каму — грамату

**У вёсцы Міжэвічы Слонімскага раёну адбылося сьвяточнае адкрыцьцё новай праваслаўнай царквы.**

Асьвяціў царкву рэктар Менскай духоўнай сэмінарыі ў Жыровіцах уладыка Канстанцін, які ўручыў старшыню калгасу «Міжэвічы» М.Ягоўдзіку грамату за дапамогу ў пабудове храма. А прыхаджане атрымалі сьвятую ваду з жыванноснай крыніцы Божай маці, пры якой і пабудавалі бажніцу.

В.Я.

## Сьвята беларускіх камуністаў вачыма эстонскага журналіста

**У нядзелю, 6 лістапада, у менскім парку Горкага сабралася традыцыйная публіка (пераважна пэнсіянэры і адстаўнікі), якая сьвяткавала тут 77-ю гадавіну расейскага бальшавіцкага перавароту. За гэтаю падзеяй назіраў госьць рэдакцыі СВАБОДЫ — спэцыяльны карэспандэнт найбуйнейшай эстонскай газэты *Eesti Sõnumid* ("Эстонскія навіны").**

Зь невысокай трыбуны нейкія людзі горача пра нешта прамаўлялі. Для балтыйскага вока гэта было досыць цікавае мерапрыемства — як па атмасфэры, так і па зьмесце. У Эстоніі, напрыклад, пра нешта падобнае папросту ўжо забыліся. Таму было цікава назіраць за людзьмі, якія на поўным сур'ёзе патрабавалі вярнуць савецкія парадкі: «восстановить СССР», «советское благосостояние» і г.д.

Усе аратары сярдзіта наракалі на дэпутатаў Вярхоўнага Савету. Адна немаладая дама ў футравай шапцы злосна заявіла з трыбуны: «Депутаты, посмотрите, что вы натворили!» Яна прыгразіла, што, нягледзячы на хуткае сканчэньне тэрміну дэпутацкіх паўнамоцтваў, «мы можем вас и отозвать». Надпіс на плякаце побач зь ёю быў гэткі ж рашучы: «Контрреволюция не пройдет!»

Адчувалася, што арганізатарам мерапрыемства была партыя камуністаў, бо слова давалі «представителям разных социальных групп». Нейкі «представитель молодежи», напрыклад, скардзіўся, што «у нас нет больше будущего — отнята работа, образование, дорогие сердцу праздники...» Як і многія іншыя аратары, ён прачытаў нейкі зварот — спачатку па-расейску, а потым, папрасіўшы прабачэньня, зачытаў тое ж самае па-беларуску.

На завяршэньне сьвята публіцы зачыталі яшчэ адну рэзалюцыю, якую паабяцалі накіраваць усім: прэзыдэнту, ураду, Вярхоўнаму Савету, у прэсу... (Можа быць, нават у ААН, МВФ?). На працягу дзесяці сэкунд правялі галасаваньне. У адказ на пытаньне аратара «кто за?» некаторыя прысутныя паднялі рукі. Потым чалавек ля мікрафона спытаўся «хто супраць?». Таварыш у андатравай шапцы паблізу мяне даволі голасна крыкнуў: «Ну, кто здесь может быть против?! Конечно, все за!».

Такім чынам, гэты зварот быў прыняты «единогласно». Пасьля гэтай працэдуры сьцяганосцы-пэнсіянэры скруцілі чырвоныя і чырвона-зялёныя сьцягі ды пачалі складаць іх на верхнія багажнікі двух «Масквічоў».

У час мітынгу нейкія людзі зьбіралі таксама подпісы за «восстановление социалистической законности», прадаваліся расейскія газэткі «Завтра», «Патриот», «Русский порядок» ды іншыя падобнага кшталту. Удзельнікам мітынгу раздалі запрашальныя білеты на вечарыну з нагоды «славной даты».

Асабіста я быў задаволены — такую падзею ня кожны дзень пабачыш. Тым больш, што гэта было амаль апазыцыйнае мерапрыемства. Арганізатары абураліся, што гарадзкія ўлады не дазволілі прайсьці ім «праздничной колонной по Ленинскому проспекту». Аднак я памятаю, што некалькі гадоў таму ў Эстоніі пісалі, што гэтая галоўная вуліца была названая імем першадрукара Францішка Скарыны. А можа, ужо ўсё вярнулася назад?

Маргус ВЯЛЬЯ
6 лістапада, Менск

## Абаронцы Горадні урачыста перазахаваныя

**На Дзяды былі перазахаваныя парэшткі 39-ці польскіх жаўнераў, якія ў верасьні 1939 г. абаранялі Горадню і былі расстраляныя на нёманскім беразе чырвонаармейцамі. Знайшліся відавочцы тых падзеяў. Яны засьведчылі, што ўсе расстраляныя былі апранутыя ў вайсковую форму, двое марна спрабавалі ўцячы ў бок Нёмана. Перазахаваньне польскіх жаўнераў праведзенае з дазволу гарадзкіх уладаў.**

Парэшткі расстраляных былі эксгумаваныя два гады таму пад кіраўніцтвам Рычарда Кацынэля — віцэ-старшыні Саюзу палякаў Беларусі. Гэтая мясьціна лічылася ў горадзе нібы гарадзенскімі Курапатамі, таму і зрабілі раскопкі брацкай магілы. Усяго знайшлі, аднак, не 39, а 90 шкілетаў. Астатнія, праўдападобна, ляжалі там з часоў 1-ай сусьветнай вайны.

Перазахавалі польскіх жаўнераў толькі цяпер, праз два гады. І вось чаму. Неўзабаве пасьля эксгумацыі выйшла пастанова ўраду, паводле якой усе падобныя працы павінны былі ўзгадняцца з Камітэтам па сацыяльнай абароне вайскоўцаў пры Савеце міністраў. Камітэт пачаў валаводзіць справу з перазахаваньнем. Відавочна, чыноўнікам не падабалася, што ішлося пра перазахаваньне не «вызваліцеляў» Горадні, а ейных абаронцаў.

З гэтае прычыны скрыні з косткамі захоўваліся паўтара гады ў майстэрні фірмы «Маналіт», а апошнія паўгода — у Бэрнардзінскім касьцёле. Летась, калі гарадзкія ўлады падрыхтавалі праект рашэньня аб перазахаваньні польскіх жаўнераў, у аблвыканкам паступіла фактычная забарона з таго самага Камітэту па сацабароне вайскоўцаў. Дарэчы, самім арганізатарам эксгумацыі нехта пагражаў па тэлефоне, гаворачы, што калі яны не спыняцца, дык іх, маўляў, чакае тое ж, што і Арцымяню, — забойства.

Сёлета, як толькі той камітэт быў скасаваны прэзыдэнтам, Гарадзенскі гарвыканкам 19 кастрычніка прымае рашэньне аб перазахаваньні. Старшынём камітэту па перазахаваньні жаўнерскіх парэшткаў прызначылі старшыню Кастрычніцкага райвыканкаму Горадні Людмілу Школьнік. Яна сказала слова і на вайсковых могілках.

2 лістапада ў капліцу на старыя каталіцкія могілкі пасьля адпяваньня ў Бэрнардзінскім касьцёле прывезьлі 4 агульныя труны. Тры зь іх былі накрытыя польскімі сьцягамі, а адна — беларускім. Відаць, арганізатары ўзялі пад увагу, што ў гарадзенскіх кашарах служыла даволі шмат тутэйшых беларускіх хлопцаў. На саміх жа могілках у часе набажэнства на вольным паветры лунай толькі дзяржаўныя сьцягі Беларусі. Няма сумневу, што сярод тых жаўнераў былі і праваслаўныя, і каталікі. Таму ксяндзы гаварылі па-польску і па-беларуску, удзельнічаў таксама праваслаўны сьвятар. Сабралася шмат людзей. Пасьля труны перавезьлі на вайсковыя могілкі, што знаходзяцца непадалёк на вул.Белуша. Жаўнераў пахавалі побач помніка ахвярам Катыні.

На жалобную ўрачыстасьць прыехала пасол Польшчы пані Эльжбэта Смулэк, запрошаная неафіцыйна. Быў таксама прадстаўнік польскага ўраду сп.Анджэй Пшэвозьняк. Мясцовыя палякі не імкнуліся надаць падзеі палітычнага характару. Што датычыць беларусаў, што бралі ўдзел у перазахаваньні, дык яны выказаліся аб падзеі вельмі станоўча. Па-першае, нарэшце замардаваных жаўнераў пахавалі па-людзку. Па-другое, беларусы з палякамі адчулі еднасьць і прадэманстравалі, што іх на гэтай зямлі болей нікому ня ўдасца пасварыць.

Здавалася б, парадокс: Чырвоная армія ў верасьні 1939 г. зьдзейсьніла вызвольны паход, пасьля чаго да Беларусі была далучаная ейная заходняя частка. Аднак гэта быў як бы пабочны вынік змовы Сталіна з Гітлерам. Сёньня мы ўсьведамляем неадназначнасьць гэтай падзеі, а таму шануем мужнасьць людзей, якія тады баранілі горад. Дарэчы, у Горадні польскіх войскаў практычна не было, абаранялі яго, прычым ад танкаў, пераважна паліцыянты і скаўты-гімназісты.

Сяргей МАКСІМОВІЧ

## Пэнсіянэры разьлюбілі Леніна

**На кастрычніцкім мітынгу ў Горадні не было чамусьці аніводнага ленінскага партрэту.**

Затое мітынгоўшчыкі прынесьлі з сабою партрэт Сталіна. Калі карэспандэнт беларускага тэлебачаньня Януш Габінскі паспрабаваў сьфільмаваць партрэт **«бацькі ўсіх часоў і народаў», на яго накінуліся два дзябёлыя мужчыны з чырвонымі сьцягамі**, пагражаючы: «Будзеш здымаць — будзе табе тое, што ў Маскве зрабілі з Холадавым» (трэба разумець, яны мелі на ўвазе забітага нядаўна маскоўскага журналіста). Але да інцыдэнту не дайшло.

Аратары на мітынгу гаварылі пра пагаршэньне жыцьця і абвінавацілі ў гэтым БНФ. Прэзыдэнта Лукашэнку ня згадвалі ні станоўча, ні адмоўна.

В.В.

## Паніка ў аблвыканкаме і на тэлебачаньні

**Не пашанцавала супрацоўнікам Гарадзенскага аблвыканкаму. У адпаведнасьці з прэзыдэнцкім указам тут скарачаюць 141 чалавека (30% ад агульнай колькасьці).**

З пэнсіянэрамі разабрацца няцяжка. Але вось, да прыкладу, былы ідэалягічны сакратар абкаму КПБ таварыш Бірукова яшчэ не пэнсіянэрка. Тры гады таму яе ўзялі па пратэкцыі ў апарат аблвыканкаму, а цяпер даводзіцца скарачаць, бо ў ідэалёгіі больш няма патрэбы. Але ж затое ёсьць іншая панадная пасада — старшыні абласнога тэлебачаньня. Толькі ў адной Гарадзенскай вобласьці яго яшчэ не прызначылі. Былы старшыня вырашыў ня ўдзельнічаць у ператасоўцы кадраў і з прычыны хваробы звольніўся зь 1 лістапада. Але прэтэндэнтаў не бракуе. Аднак зь іх усіх журналісты найменш хацелі б менавіта т.Бірукову. Кажуць, што хадакі з гарадзенскай тэлевізіі езьдзілі ажно ў сталіцу — прасіць, каб толькі яе не ставілі на гэтае месца. А цяпер усе чакаюць шэфа — сп.Кісяля, які прыедзе на наступным тыдні і прызначыць новага старшыню.

М.МІКАЛАЕЎ

## «Пагоні на Грунвальд» больш няма

**У Горадні зьнішчаны першы (і праз доўгі час — адзіны на Беларусі) помнік у гонар Грунвальдзкай бітвы 1410 г.**

Гэта здарылася ў панядзелак 31 кастрычніка. Самае цікавае, што праваахоўныя органы нічога пра гэта не ведалі. З лістапада я зьвярнуўся ў гэтай справе да намесьніка начальніка Ленінскага райаддзелу міліцыі Станіслава Васілеўскага. Адразу высьветлілася, што ў дзяжурнай частцы гэтае здарэньне зафіксаванае не было. Я мусіў растлумачыць сп.Васілеўскаму, што з памятнага знаку «Пагоня на Грунвальд», які знаходзіцца каля Каложскай царквы на нёманскім беразе, сарваная і зьнікла бронзавая дошка. А ад каменнай брылы, да якой яна была прымацаваная, невядомыя злодзеі адламілі кавалак.

Памятны знак быў усталяваны ў 1990 г. і асьвячаны сьвятаром Каложы. Аўтар «Пагоні на Грунвальд» — вядомы скульптар Алесь Дранец. Да памятнага знаку гарадзенцы прыходзілі на ўгодкі БНР, на Дзень незалежнасьці, у дзень Аршанскай бітвы.

Калі я паведаміў намесьніку начальніка міліцыі, што дошка была адлітая з бронзы, ён адразу ўхапіўся за магчымую вэрсію аб крадзяжы яе з мэтаю выкарыстаньня мэталю. У патрыятычных колах, аднак, схільныя лічыць, што ўчыненае злачынства напэўна мае палітычную афарбоўку, паколькі было зьдзейсьненае напярэдадні Дзядоў. Зрэшты, усё высьветліць сьледзтва, калі толькі яно дасьць нейкія вынікі.

С.А.

# Дарогі ад камунізму

## Камунізм і ягоная спадчына

Камунізм, які паводле афіцыйнае дактрыны павінен быў існаваць вечна, выявіўся, бадай што, тупіком, зьяваю часовай.

У гісторыі камунізму было даволі шмат людзей, якія былі гатовыя сваёй дзейнасьцю падтрымліваць гэты лад і ягоныя рэпрэсіі. У той жа час пэўныя віды кар'еры былі практычна недасягальныя для людзей прыстойных, якія паводзілі сябе так, быццам дзяржава была пад акупацыяй, праўда, са значнаю доляй мясцовага калябарацыянізму. «Гэта ня наша, але трэба з гэтым неяк жыць», — меркавалі пры камунізме. Прыстойны чалавек наагул ня стаў (і ня раіў бы такога сваім дзецям) на шлях здрадніцтваў — ці то ў паліцыі, ці то ў войску.

Камуністычныя партыі налічвалі шмат сяброў, але часта ўдзельнікі КП пачувалі сябе няёмка і лічылі, што іхная партыйнасьць павінна быць неяк вытлумачаная. Іншыя ж на пытаньне, чаму не ўступілі ў партыю, адказвалі: ня змог бы тады глядзець маці ў вочы. Сям'я нярэдка вызначала кашто̆ўнасьці, супрацьлеглыя існай сыстэме. Такую ж ролю адыгрывалі і нацыянальная культура, якую цалкам так і ня здолелі зьнішчыць, і рэлігія, адносіны да якой зьмяніліся пры розных часах у розных краінах, і суполкі сяброў-адзінадумцаў, што зь цягам часу ператвараліся ў асяродкі апазыцыі.

Існаваньне пры камунізме не вымагала, каб кожны займаўся рэпрэсіямі і нішчэньнем. Некаторыя работнікі школаў, унівэрсытэтаў або выдавецтваў спрабавалі выкарыстаць магчымасьці ўстановы дзеля агульнай карысьці, стараючыся не зьвяртаць увагі на афіцыйную ідэалёгію і працаваць на нацыянальную культуру або адукацыю. Гэткую ж практыку можна было заўважыць на некаторых прадпрыемствах. Людзі імкнуліся стварыць анклавы грамадзкае карыснасьці пасярод бюракратыі ды камуністычнае гаспадаркі.

Цыклі «адлігі» і «замаразкаў» пры камунізме заключаліся ў тым, што падчас «адлігі» ўлады ў большай ступені дапускалі такія адносна незалежныя анклавы ды некаторыя грамадзкія ініцыятывы, а пры «замаразках» даволі жорстка зь імі змагаліся. Гэтыя цыклі пачалі выразна праяўляцца з часоў Хрушчова, паходзілі ад намаганьняў збудаваць камунізм больш сьціплымі сродкамі, а менавіта ўжываючы менш прымусу. Задача выявілася непасільнаю, і цяпер мы ведаем канчатковую разгадку правалу Хрушчова і Гарбачова: няма камунізму без прынукі.

Пры камунізме ня толькі ня было інстытуцыяў, неабходных у сучасным грамадзтве (як біржа, напрыклад), альбо гэтыя ўстановы былі фіктыўныя (марыянэткавы парлямант і марыянэткавы суд, як і фіктыўныя грошы і фальшывая праца), але таксама бракавала людзей, адпаведна адукаваных і падрыхтаваных да працы ў тых установах, што меліся паўстаць.

Камунізм выявіўся зьяваю часовай, але тое, што часовае, не зьнікае і не перастае дзейнічаць. Пра існаваньне камунізму сьведчаць яшчэ існыя (да часу) ягоныя сродкі прымусу ды запалохваньня і дастатковая (таксама, спадзяюся, да часу) колькасьць людзей, зацікаўленых у захаваньні гэтага ладу.

## Тры шляхі посткамунізму

Паводле вядомага выслоўя, камунізм — найдаўжэйшы шлях ад капіталізму да капіталізму. У такіх краінах, як Чэхаславакія, камунізм быў таксама найдаўжэйшым шляхам ад дэмакратыі да дэмакратыі (праз дэмакратычную дыктатуру). Іншыя краіны трапілі ў камунізм з аўтарытарнае сыстэмы, як Расея, напрыклад, або з іншага таталітарызму, як Усходняя Нямеччына.

Некаторыя народы, асабліва тыя, што ўваходзілі ў СССР ці Югаславію, існавалі як самастойныя палітычныя адзінкі наагул вельмі нядоўга і ня мелі магчымасьці пры камунізме ўдасканаліць свае дзяржаўныя інстытуцыі, а тым больш дэмакратыю. Часта яны ня мелі і ўласных традыцыяў, на якія можна было б абаперціся пры пабудове дэмакратыі.

Ёсьць шмат перашкод і цяжкасьцяў у ліквідацыі рэштак былое сыстэмы. Значную ролю адыгрываюць тут інтарэсы, выражаныя і прадстаўленыя праз палітычныя партыі ды прафсаюзы. Посьпех на выбарах пракамуністычных партыяў можна разглядаць як дзіўную жывучасьць камунізму, але гэта — непасрэдны вынік ягонае спадчыны — таго, што стратныя камуністычныя прадпрыемствы ня зьніклі разам з камунізмам, што безьліч чыноўніцтва, паўсталага і выхаванага пры камунізме, і надалей засядае ў разбухлай дзяржаўнай бюракратыі, і што пасьледкі камунізму засталіся ў сьветапоглядзе і мэнтальнасьці. Пракамуністычныя партыі выкарысталі таксама расчараваньне новай рэчаіснасьцяй ды ўспаміны людзей пра старое жыцьцё, якое быццам бы было лепшым.

Посткамунізм не існуе гэтак сама, як існаваў камунізм. Посткамунізм яшчэ ня стаўся чымсьці акрэсьленым і сфармаваным, не вынайшаў уласных мэханізмаў захаваньня і разьвіцьця. Гэта — працэс, дзеяньне, а не сыстэма або лад, гэта хутчэй рух па цячэньні, а не актыўнае дасягненьне. Разам з тым гэта рух у трох аб'ектыўных накірунках: у бок капіталізму, дэмакратыі і незалежнасьці.

Гэтыя тры аспэкты посткамунізму не ідэнтычныя: дэмакратыя ў шматнацыянальнай дзяржаве можа прывесьці не да незалежнасьці, а да залежнасьці, калі значная частка насельніцтва будзе падтрымліваць сувязі з буйнейшым і больш магутным суседам, які мае імпэрскія амбіцыі. Усьведамляючы такую небясьпеку, некаторыя былыя савецкія рэспублікі строга рэгляментавалі магчымасьць атрыманьня грамадзянства, абмяжоўваючы тым самым дэмакратычныя свабоды ў грамадзтве. У іншых жа краінах, як напрыклад на Беларусі, цешацца надзеяю, што можна пабудаваць капіталізм з дапамогаю магутнага суседа, узмацняючы адначасна абумоўленасьць уласнай гаспадаркі. У гэтым выпадку абраны шлях выйсьця з крызысу канфліктуе зь імкненьнем да незалежнасьці.

Да гэтага часу ў гісторыі капіталізм і дэмакратыя, як правіла, узаемна адзін аднаму садзейнічалі. Некаторыя псыхалягічныя тэндэнцыі і ўзоры культуры спрыялі і капіталізму, і дэмакратыі — як, да прыкладу, перакананьне, што дарослы чалавек павінен сам адказваць за свае дзеяньні і ніхто ня мае права штосьці за яго вырашаць. Таталітарызм зь ягонымі манапалістычнымі тэндэнцыямі — вораг і дэмакратыі, і капіталізму. Капіталізм, гэтаксама як і дэмакратыя, вымагае свабоды і гарантыяў, заснаваных на законе.

Але магчымыя таксама і канфлікты. Хто-ніхто лічыць, што можна пабудаваць капіталізм без дэмакратыі, што, напрыклад, моцная ўлада прэзыдэнта, надзеленага адпаведнымі паўнамоцтвамі, неабходная, каб супрацьстаяць грамадзкай незадаволенасьці і гэткім чынам забясьпечыць посьпех рэформам, якія замацоўць капіталізм. Тымчасам для іншых моцная ўлада прэзыдэнта служыць гарантам абароны пакрыўджаных і тых, каго перасьледуюць, бо робіць магчымым выпраўленьне несправядлівасьцяў капіталізму.

На пачатку свайго разьвіцьця капіталізм спрыяў дэмакратыі, але цяпер дэмакратыя не заўсёды спрыяе капіталізму, асабліва ў краінах з затармажаным гаспадарчым разьвіцьцём. Можна, аднак, дапусьціць, што дэмакратыя без капіталізму доўга ня вытрымае.

## Рух да капіталізму

Асаблівасьцю капіталістычнага грамадзтва зьяўляецца свабода ўладаньня і абарачэньня прыватнае ўласнасьці. Гэтая свабода наагул нясе з сабою клясавую дыфэрэнцыяцыю. У посткамуністычнай прэсе і палітыцы няшмат разважаюць пра новую ўласнасьць, і можна нават заўважыць, што гэтым пытаньнем у пэўным сэнсе грэбуюць. Кажуць: каб капіталістычнае грамадзтва функцыянавала, трэба каб нехта меў капітал, і ня так істотна, хто будзе ўладальнікам.

Гэтая досыць звычайная аргумантацыя, якую можна сустрэць у многіх разьмежаваных грамадзтвах, сьцьвярджае, што прыватная ўласнасьць прыносіць людзям столькі карысьці, што няважна, адкуль хто здабыў грошы. Яна служыць адгаворкаю пры пасьпешнай, прыхаванай і несправядлівай прыватызацыі.

У адказ на такую аргумантацыю можна адказаць, што, узьнікшы аднойчы, клясавыя супярэчнасьці не зьнікаюць самастойна: дзеці атрымліваюць у спадчыну маёмасьць бацькоў, і таму пачатковая, стартавая маёмасная сытуацыя мае значэньне ня толькі цяпер, але таксама і ў наступных пакаленьнях.

Палітыкі маглі выбіраць паміж усеагульнай, масавай прыватызацыяй у чэскім стылі і прыватызацыяй прыхаванай, выгоднай перш за ўсё былой намэнклятуры ды асобам, што скарысталі з ужо новых палітычных пазыцыяў і сувязяў. Спакуса цішком падзяліць дзяржаўную маёмасьць часта перамагае. Аднак у некаторых краінах, такіх як Чэхія ды Эстонія, прыватызацыя зьдзяйсьняецца шляхам публічных аўкцыёнаў і конкурсаў.

У многіх краінах дзяржаўны сэктар і надалей дамінуе ў эканоміцы, прыватны ж — працуе ў значнай ступені на мяжы законнасьці. Дзяржава распараджаецца шматлікімі гаспадарчымі рэсурсамі, аднак яна слабая і часта залішне скарумпаваная, каб сыніць раскраданьне і належна сабраць падаткі, што ў сваю чаргу яшчэ больш яе аслабляе.

Будуючы капіталізм, непазьбежна патрэбна праводзіць пэўныя радыкальныя меры, кшталту палітыкі «зацягнутага рэменя», дзеля стабілізацыі валюты і ўзмацненьня пэўных дзяржаўных функцыяў, каб можна было праводзіць прыватызацыю, належна спаганяць падаткі і змагацца з карупцыяй. Пры правядзеньні такіх рэформаў варта атрымаць «упаўнаважаньне» ад грамадзянаў, выкарыстоўваючы магчымасьці дэмакратыі.

Калі ўдзел у выбарах усеагульны, калі галасы прыкладна роўныя і групы падтрымкі актыўныя, залежнасьць ад выбаршчыкаў схіляе палітыкаў да падтрымкі сацыяльных праграмаў. Паводле ідэалёгіі крайняга лібэралізму (у эўрапейскім, а не амэрыканскім разуменьні слова «лібэралізм»), рынкавымі крытэрыямі трэба кіравацца настолькі, наколькі гэта магчыма, і няма прычыны, каб дзяржава займалася сацыяльнай апекаю. Аднак насуперак такім крайнерынкавым тэндэнцыям, посткамуністычныя краіны праводзяць сацыяльна арыентаваную палітыку, якая можа зьменшыць шок ад рэформаў.

## Рух да дэмакратыі

Дэмакратыя азначае найперш дэмакратычныя працэдуры, гэта значыць магчымасьць выражэньня ўласнае волі ў галасаваньнях і рэфэрэндумах. Выявілася, што былыя камуністычныя ўлады часта могуць бяз шкоды для сябе дазволіць дэмакратычныя працэдуры ў выпадку, калі апазыцыя мае абмежаваныя магчымасьці арганізацыі ды прапаганды незалежнае думкі. Посьпех на выбарах былых камуністаў у Румыніі ды Сэрбіі можна часткова абумовіць іхнай манапалістычнай пазыцыяй у сродках масавай інфармацыі, да якіх апазыцыя мела вельмі абмежаваны доступ. У некаторых краінах выбаршчыкі галасуюць амаль аднагалосна, а гэта паказвае на тое, што дэмакратычныя працэдуры могуць суіснаваць разам зь недахопам плюралізму. Аднак, калі дэмакратыя хоча існаваць доўга, патрэбныя ня толькі дэмакратычныя працэдуры, але таксама спрыяльнае асяродзьдзе, у якім можа разьвівацца дэмакратычная культура зь яснымі правамі, законамі і інстытуцыямі, такімі як свабодная прэса, у прыватнасьці.

Шмат у якіх былых савецкіх рэспубліках старшыня вярхоўнага раднага органа рабіўся першым прэзыдэнтам, будучы часам адзіным кандыдатам на пасаду. У Азэрбайджане, Грузіі і Таджыкістане сьпікер парляманту выконваў функцыі прэзыдэнта і меў, фармальна ці нефармальна, вырашальны ўплыў на ўрад. У такіх выпадках спробы разьяднаньня заканадаўчае і выканаўчае ўлады былі досыць марнымі.

На прэзыдэнцкіх выбарах людзі часта галасуюць за кіраўніка, пра якога кажуць, што ён мае яркую індывідуальнасьць і стане збаўцам для краіны. Прэзыдэнцкія сыстэмы часта адлюстроўваюць культ асобы кіраўнікоў, асабліва там, дзе слабыя палітычныя партыі. Зьдзіўляе аднадушнасьць электарату падчас усеагульных прэзыдэнцкіх выбараў. Згодна з афіцыйнай статыстыкаю, Лявон Тэр-Пэтрасян (Арменія) атрымаў у 1991 г. 83% галасоў, Аскар Акаеў (Кіргізія) — 95%; Мірча Снегур здабыў у Малдове 98,2% галасоў, а ў чэрвені 1992 г. Сапармурад Ніязаў атрымаў 99,5% галасоў у Туркмэніі. У студзені 1994 г. выбаршчыкі (99,99% — !) зацьвердзілі яго на пасадзе прэзыдэнта да 2002 г.

## Рух да незалежнасьці

У Сярэдняй ды Ўсходняй Эўропе залежнасьць народу пры камунізме была зазвычай залежнасьцю ад СССР (толькі, бадай, Югаславія ды Албанія былі выключэньнямі). У рэспубліках былога СССР гэта была залежнасьць ад цэнтру ў Маскве. Разам з утварэньнем Саюзу Незалежных Дзяржаваў старыя формы залежнасьці зьмяніліся на новыя. У склад СНД уваходзяць цяпер амаль усе (за выняткам краінаў Балтыі) былыя савецкія рэспублікі. Межы былога СССР, акрамя балтыйскіх, ахоўваюцца сумесна, гэта значыць з удзелам Расеі. Дамінантная роля Расеі ў СНД не выклікае сумневу, ня толькі бручы пад увагу ейную моц і сілу, але таксама таму, што Расея выступае законным спадкаемца СССР.

Рух да незалежнасьці ў былых савецкіх рэспубліках быў і ёсьць мацнейшы там, дзе жывыя традыцыі незалежнай дзяржаўнасьці і культурна-рэлігійныя традыцыі адрозныя ад расейскіх. Таксама мае значэньне і доля расейцаў сярод насельніцтва краіны, і даўнасьць ейных сувязяў з Расеяй ды СССР.

Расейскія палітыкі не шкадуюць высілкаў, каб захаваць кантроль над расейскай «сфэраю ўплыву», атрымліваючы ўхваленьне на Захадзе ад некаторых з тых палітыкаў, што называюць сябе прыхільнікамі стабільнасьці. Расейскі шлях да стабільнасьці, аднак, пралягае праз супярэчнасьці. Расея ўзмацняе СНД — і сваё дамінаваньне ў ім; улагоджвае міжнацыянальныя канфлікты — і ў той жа час спрыяе ім, каб пасьля іх вырашаць. Расея пастаўляе зброю абодвум бакам, што варагуюць між сабою. У Прыднястроўі і Крыме Расея выкарыстоўвала мясцовыя прарасейскія сэпаратысцкія рухі, прычым у выпадку Прыднястроўя — адкрыта ўтвораныя з дапамогаю расейскага войска.

У Сярэдняй і Ўсходняй Эўропе Расея намагаецца захаваць уплыў і перашкодзіць уваходжаньню краін гэтага рэгіёну ў НАТО. Расейскія палітыкі пераконваюць Захад, што ён не павінен нічога рабіць «насуперак Расеі» у няясна акрэсьленай сфэры расейскіх інтарэсаў у Эўропе. У той час калі Ўсходняй Нямеччыне ўдалося выйсьці са сфэры расейскага панаваньня, былыя савецкія рэспублікі мецьмуць у гэтым вялікія цяжкасьці. Лёс жа сярэдняй і ўсходняй Эўропы будзе залежаць ад эканамічнай магутнасьці паасобных краінаў, ад супрацоўніцтва паміж імі і ад рашучасьці іхных палітычных дзеячаў.

**Якуб КАРПІНСКІ,**
**супрацоўнік варшаўскага Інстытуту падтрымкі дэмакратыі ва Ўсходняй Эўропе**

*(Пераклаў з польскай П.Рагойша)*

